1 ВЕРАСНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№99 (630) КОШТ СВАБОДНЫ

## СВЕДЧАННЕ «БЫЛОГА»



стар.3

# Марш свободы

## Объединенная оппозиция объявила о скоординированной деятельности во время «осеннего наступления». День протеста — 17 октября.



Фота Ул. ШЛАПАКА

● На фото слева направо: Виктор Ивашкевич, Алесь Беляцкий, Анатолий Лебедько, Винцук Вечорка, Николай Статкевич, Павел Данейко и Дмитрий Бондаренко

Николай ХАЛЕЗИН

**Событие, произошедшее вчера в минском пригороде, озадачило не только представителей власти и подконтрольные им СМИ, но и видавших виды независимых журналистов. Собравшиеся в одном из загородных домов представители оппозиционных партий огласили целый ряд сенсационных заявлений. Представители «новой волны» белорусской политики заявили о том, что осенние акции оппозиции будут проводиться согласованно, при участии всех демократических сил страны. Основная акция — «Марш свободы» — пройдет 17 октября, и в ней примет участие 100 тысяч человек.**

Встреча проходила в условиях жесткой конспирации, и журналисты, собравшиеся утром в условленном месте, не имели ровным счетом никакого представления о том, куда их повезут. Ехать пришлось недалеко, — в загородный частный дом, расположенный в 20 километрах от белорусской столицы. Расположившись во дворе и на первом этаже трехэтажного дома, пришлось ждать около часа, пока политики, находящиеся на верхнем этаже, закончат консультации.

Во встрече «без галстуков» принимали участие представители всех основных политических партий и движений: лидер БСДП (НГ) **Николай Статкевич**, зам. председателя БНФ **Винцук Вечорка**, зам. председателя ОГП **Анатолий Лебедько**, депутат Верховного Совета, член политсовета ОГП **Павел Данейко**, вице-президент Белорусского Конгресса демократических профсоюзов **Виктор Ивашкевич**, член оргкомитета гражданской инициативы Хартия'97 **Дмитрий Бондаренко** и президент правозащитного центра «Весна-96» **Алесь Беляцкий**.

О чем же объявили представители демократических сил?

**Во-первых**, наметившееся объединение оппозиции было закреплено информацией о том, что все осенние акции будут проходить согласованно. То есть партии и движения объединят свои человеческие и материальные ресурсы для достижения общих целей.

**Во-вторых**, основной акцией оппозиции станет «Марш свободы», который пройдет 17 октября. Представители демократических сил высказали уверенность в том, что в этой акции примет участие до 100 тысяч человек. Эта шокирующая на первый взгляд цифра не кажется такой уж фантастической, если принять во внимание то катастрофическое экономическое положение, в котором оказалась наша страна. Должны сказаться консолидация демократических сил и появление новых молодых лидеров в оппозиционной среде.

**В-третьих**, белорусская оппозиция нынешней осенью будет координировать свою деятельность с демократическими силами Югославии. Уже в ближайшие дни Винцук Вечорка вылетает в Белград для проведения консультаций с представителями сербской оппозиции. Восточный вектор также не остался без внимания — представители демократических сил надеются на плодотворное сотрудничество с российскими демократами.

Безукоризненная организация встречи и отсутствие утечки информации при ее подготовке продемонстрировали приглашенным журналистам новый стиль работы белорусской оппозиции. И еще один любопытный нюанс — политики на своей встрече не подписали никакого документа. Николай Статкевич, комментируя этот факт, сказал: «*Нам незачем подписывать какие-то бумаги. Здесь собрались люди одного поколения, хорошо знающие друг друга и доверяющие друг другу. Людям слова достаточно устных договоренностей, чтобы им следовать*». ■

## Вік пайшоў «ва-банк»?

### Віленская сустрэча спадара Віка з Сямёнам Шарэцкім ператварылася ў непрыемную спрэчку

Рыгор БУЯН

**30 жніўня ў Вільні старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі сустрэўся з кіраўніком КНГ АБСЕ ў Мінску Хансам-Георгам Вікам.**

На жаль, звязацца з С.Шарэцкім і атрымаць інфармацыю пра сустрэчу з першых рук не ўдалося. Тым не менш мы маем звесткі, што спадар Вік меўся прапанаваць С.Шарэцкаму дату пачатку перамоваў з выканаўчай уладай — 3 верасня. Апрача таго, спадар Вік прапанаваў беларускаму спікеру новую формулу перамоваў — «6 + 6 + 6». Гэта азначае, што да дыялогу было прапанавана далучыць, акрамя 6 прадстаўнікоў апазіцыі і 6 чалавек ад цяперашняй улады, яшчэ і 6 дэлегатаў ад няўрадавых арганізацыяў. Трэба разумець, тых самых НДО, якія ўдзельнічалі 11–13 чэрвеня ў «бухарэсцкай сустрэчы». Сямён Шарэцкі катэгарычна адхіліў гэтую прапанову, што цалкам зразумела: сярод удзельнікаў «бухарэсцкай сустрэчы» не было ні адной уплывовай ці хоць больш-менш вядомай у Беларусі арганізацыі. Пачуўшы адмову ад спікера, Ханс-Георг Вік пакінуў сустрэчу, бразнуўшы дзвярыма. Пасля сустрэчы, па інфармацыі нашых літоўскіх калегаў, Сямён Шарэцкі выказаўся пра вынікі сустрэчы як «нездавальняючыя».

Варта адзначыць, што ў суботу, 29 жніўня, Сямён Шарэцкі меў тэлефонную размову са старшынёй АБСЕ Кнутам Волебекам. Апошні цікавіўся ў спікера ацэнкай дзейнасці спадара Віка ў якасці кіраўніка місіі АБСЕ ў Беларусі. Ці трэба расцэньваць гэтую размову як прыкмету незадаволенасці дзейнасцю спадара Віка ў якасці пасрэдніка?.. ■

УЛАДА

## Дзень Ведаў для Аляксандра Лукашэнкі

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

1 верасня, у Дзень Ведаў, кіраўнік дзяржавы мае намер наведаць адну са школ Першамайскага раёна Мінска, якую — пакуль невядома. Таксама не аб'яўлена, якія раёны Беларусі Аляксандр Лукашэнка збіраецца наведаць на гэтым тыдні. Вядома толькі, што яго паездка запланаваная на 2 верасня. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У Дагестане ўзнавіліся жорсткія баі паміж федэральнымі сіламі і атрадамі ісламскіх фундаменталістаў.** Па дадзеных расійскага боку, у Буйнакскім раёне Дагестана армія праводзіць аперацыю па блакіраванні і разбураенні ісламскіх экстрэмістаў-вахабітаў. Федэральныя сілы выкарыстоўваюць пры гэтым верталёты, бронетэхніку і артылерыю. З абодвух бакоў ёсць страты.

■ **Праект саюзнай дамовы Расіі і Беларусі перададзены для разгляду прэзідэнтам Барысу Ельцыну і Аляксандру Лукашэнку.** Аб гэтым у панядзелак паведаміў памочнік беларускага прэзідэнта Міхаіл Сазонаў. Па яго словах, праца над праектам на ўзроўні экспертаў завершаная, дакумент узгоднены з усімі зацікаўленымі ведамствамі абедзвюх краінаў і адобраны на ўзроўні ўрадаў Расіі і Беларусі. Пасля папярэдняга адабрэння кіраўнікамі дзяржаваў праект саюзнай дамовы будзе апублікаваны ў друку для шырокага абмеркавання.

■ **Актыўнасць выбаршчыкаў на рэферэндуме па пытанні аб статусе тэрыторыі, які адбыўся ўчора ва Усходнім Цімары, склала 98,6%.** Старшыня арганізаванай ААН выбарчай камісіі заявіла, што такая масавая актыўнасць сведчыць аб беспасяховасці спробаў праінданезійскіх груповак застрашыць насельніцтва. У 76-м годзе былая партугальская калонія Усходні Цімар была анексаваная Джакартай. У ходзе рэферэндуму жыхары тэрыторыі павінны былі вызначыць, ці будзе ёй прадастаўленая незалежнасць альбо аўтаномія ў складзе Інданезіі. Вынікі галасавання будуць вядомыя праз тыдзень.

наша свабода

НАДВОР'Е




**1 верасня** па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, на значнай частцы тэрыторыі дажджы, вецер паўночна-ўсходні, 4–9 м/сек. У наступныя дні ў Беларусі захаваецца пераменная воблачнасць, 2 верасня па поўдні пройдуць дажджы, 3-га ападкаў амаль не будзе. Тэмпература 2 верасня ўначы 7-12, удзень — 17-22, 3 верасня ўначы 5-10, удзень — 19-24 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**490 000**

СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

## Чырвона-зялёны перапуд

Адзін мой добры знаёмы з Салігорскага раёна кожную раніцу пад гукі гімна «Магутны Божа» ўзнімаў над уласнай сядзібай бел-чырвона-белы сцяг. І моцна з гэтага цешыўся. Ствараў такім чынам свой невялічкі астравок незалежнасці і беларускасці.

Не сам прыдумаў. Неяк бачыў па тэлевізары, што амерыканцы так робяць не толькі са сваім зорна-паласатым, але і з разнастайнымі нацыянальнымі ды геральдычнымі сцягамі. Вось і вырашыў перанесці патрыятычную традыцыю на нашую глебу. А трэба было яму перш добра падумаць, бо Салігорскі раён моцна адрозніваецца ад Амерыкі ў бок розных начальніцкіх закідонаў. Там – закон, а тут – «мнение». Вядома, каб ён прычапіў на аглоблю чырвона-зялёны лукашэнкаўскі сімвал вечных абяцанняў і народных пакутаў, дык праблемаў не было б. Яго б, мусіць, нават пахвалілі, а то і па тэлевізары паказалі як прыклад удалай перакоўкі на старую моду. Але наш герой не такі. Ён свядомы беларус. Ён чуў ад Лукашэнкі пра нябывалы роскві дэмакратыі на Беларусі і падумаў, што такое інтымнае пытанне, як колер сцяга на ўласным дварышчы, можна вырашыць самастойна, без усебаковага абмеркавання з раённай элітай. Тым больш, што вакол сядзібы стаіць высокі плот.

Больш таго, яго як чалавека з мастацкім густам ад ненатуральнага спалучэння чырвонага і зялёнага колераў проста ванітуе. Павышаецца тэмпература, баліць галава, дрыжаць рукі. А вось спалучэнне белага і чырвонага дае радасць, здароўе і добры настрой на ўвесь дзень. Не дзіва таму, што чалавек перад сваімі вачамі павесіў наш родны, чысты, светлы, прыгожы, гістарычны нацыянальны сцяг. Бо хто ж вешае ў хаце замест святой іконы Божай Маці цьмянае расфарбаванае фота нелюбімай цешчы?

Хутка казка кажацца, ды не хутка праўда абзываецца. Пайшоў наш герой неяк у поле агледзець бульбу, а нехта праз дзірку ў плоце заўважыў той прыгожы сцяг, дый пазваніў «куда следует». Маўляў, прымайце меры, «разаблачано гнязло бэнэфаўскіх загаворшчыкаў». Пакуль гаспадар пасярод сотак збіраў каларадскіх жукоў у бляшанку, да яго на двор залезлі пасланцы ўлады і той сцяг сцягнулі. Не пабаяліся і лютага сабакі, якога, на жаль, гаспадар прывязаў на той час да будкі.

А далей гэты сцяг апынуўся ў міліцыянтаў, а нашага героя пачалі цягаць па інстанцыях: чаму павесіў «запрашчоный» сімвал? Выклікалі нават у Салігорск, да начальнікаў. Здарыўся перапуд раённага маштабу. А што, сапраўды? А каб гэты сімвал ды ўбачыў Сам Аляксандр Рыгоравіч?

**P.S.** Апераджаючы негатыўную рэакцыю рознакаліберных раённых і абласных начальнікаў, хачу прасіць іх высокага дазволу на тое, каб павесіць у рэдакцыйнай прыбіральні партрэт І.В.Сталіна, бо нам нельга забываць, у якой краіне мы пакуль што жывём. Абяцаю, што Аляксандр Рыгоравіч яго не ўбачыць.

# Ахвотнікаў заняць прэм'ерскае крэсла няма

**Рыгор БУЯН**

30 жніўня ў Мінску збіраўся Прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Нягледзячы на нежаданне яго кіраўнікоў гаварыць пра разгледжаныя пытанні, НАВІНАМ стала вядома, што размова ішла аб прапановах Сямёна Шарэцкага. У першую чаргу, прадстаўлення ў якасці кандыдата ў прэм'ер-міністры Міхаіла Чыгіра. Паколькі вязень сумлення адмовіўся займаць прэм'ерскае крэсла, Прэзідыум ВС даручыў в.а.старшыні Віктару Ганчару дадаткова ўзгадніць узнікшыя праблемы «з усімі суб'ектамі, якія задзейнічаныя ў працэсе». Пад гэтым, трэба меркаваць, маецца на ўвазе пошук новай кандыдатуры на пасаду старшыні апазіцыйнага ўрада. Таму паседжанне было перапыненае да 6 верасня.

Менавіта 6 верасня кіраўніцтва парламента вызначыць парадак дня і дату сесіі ВС. На чакаемай сесіі плануецца разгледзець кандыдатуру прэм'ер-міністра, зацвердзіць апазіцыйную дэлегацыю на перамовы з выканаўчай уладай, канчаткова прыняць Платформу на перамовы, а таксама ўдакладніць склад дэпутатаў ВС. ■

СПОРТ

## Турысты

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Поўным правалам завяршылася выступленне нацыянальнай каманды Беларусі на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы.

У адрозненне ад мінулых гадоў, не было заваявана ніводнага медаля, а большасць нашых спартсменаў увогуле выглядалі турыстамі, якія выпадкова наведаліся на сусветны лёгкаатлетычны форум. Паўстае пытанне: «Ці варта было траціць столькі грошай на праезд шматлікай дэлегацыі, калі пасля выступлення большасці беларускаму аматару спорту становіцца сорамна». Успамінаецца, што ў часы, калі краінай яшчэ не кіраваў «вялікі тэнісіст-футбаліст-хакеіст», беларусы былі заканадаўцамі моды ў лёгкай атлетыцы. А перамагла на чэмпіянаце каманда ЗША — 11 залатых медалёў. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Противникам единения Беларуси и России, критикующим Александра Лукашенко за преобладание восточного вектора в политике, надо честно ответить на два вопроса: признают ли они существование «славяно-православной цивилизации» и считают ли необходимым ее укреплять.**

*Нина ШЕЛДЫШЕВА*
*Газета «Рэспубліка», 31 августа 1999 г.*

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Лідэр БСДП (НГ) **Мікалай Статкевіч** на пікеце, які праводзілі аб'яднаныя дэмакратычныя сілы

## Германскі пасол занепакоены ходам перарэгістрацыі

**Рыгор БУЯН**

30 жніўня Анатоль Лябедзька, прэзідэнт Беларускай Асацыяцыі маладых палітыкаў (БАМП), якой мінюст адмовіў у перарэгістрацыі, сустрэўся з паслом Германіі Хорстам Вінкельманам. А.Лябедзька давёў да ведама нямецкага пасла інфармацыю пра нежаданне ўладаў перарэгістраваць шэраг грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку БАМП, Фонд «Адкрытае грамадства», Беларускі Хельсінкскі камітэт. А.Лябедзька бачыць адзіную прычыну такіх паводзінаў мінюста — імкненне забараніць дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў, якія праводзяць адрозную ад афіцыйнага курсу палітыку. Анатоль Лябедзька паведаміў, што Хорст Вінкельман выказаў занепакоенасць неперарэгістрацыяй шэрагу грамадскіх аб'яднанняў. Спадар Вінкельман мае намер узняць гэтае пытанне на самым высокім узроўні. ■

## Грошы згубіліся ў дарозе

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

Камітэт Дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці зафіксаваў нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў, выдзеленых жыхарам, чые пасевы ў мінулым годзе пацярпелі ад надвор'я. У мінулым годзе быў выдзелены 51 мільярд рублёў, у асноўным, на закупку бульбы, а на пункт прызначэння дайшло толькі 7. Камітэтчыкі назвалі канкрэтныя прозвішчы вінаватых у камітэце па сельскай гаспадарцы аблвыканкама і выказалі незадавальненне яго працай. Як высветлілася, многія калгасы не атрымалі грошы і сёння. Камітэт вырашыў патрабаваць ад вінаватых выплаціць 7 мільярдаў рублёў. Аднак у поўным аб'ёме вярнуць грошай не атрымаецца. Справа ў кадравай палітыцы, якую праводзяць улады. Дзякуючы ёй многія чыноўнікі — сярод іх і старшыня камітэта Уладзімір Адашкевіч — ужо не працуюць на сваіх месцах. ■

## На рынках – цішыня

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

З 1 верасня рэчавыя рынкі Гродна спыняюць працу. Каля 85 працэнтаў прадпрымальнікаў напісалі заявы, што яны бяруць «вымушаны адпачынак». Кіраўніцтва іхняга прафсаюза лічыць, што акцыя пратрывае цэлы месяц.

Беручы адпачынак, удзельнікі акцыі папярэдзілі падатковыя органы, што такім чынам яны пратэстуюць супраць пачатку дзеяння з 1 верасня палажэння прэзідэнцкага дэкрэта адносна канфіскацыі тавараў у прыватнікаў. Гэта будзе рабіцца, калі ўладальнік не будзе мець адпаведных дакументаў — падарожных і сертыфіката якасці. Прадпрымальнікі ўпэўненыя, што канфіскацыя набудзе масавыя маштабы. Прафсаюзам паабяцана, што будуць зробленыя захады, каб прыпыніць дзеянне дэкрэта, нават заяўлена аб правядзенні ў верасні «масавых мітынгаў пратэсту». ■

## Сабачыя «радасці»

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

Дэпутаты Бабруйскага гарадскога савета праявілі цікавую ініцыятыву. Яны прынялі рашэнне, згодна з якім з 1 верасня ўладальнікаў сабакаў байцоўскіх парод і іншых, якія ўяўляюць з сябе небяспеку для жыхароў (якую — у рашэнні не згадваюць), вылічваць больш за 4 мінімальныя зарплаты ў выглядзе мэтавага збору. Адметна тое, што пад фінансавы ціск трапілі і тыя сабачнікі, якія маюць «сяброў чалавека» з высокім каркам. Так, 0,1 мін. зарплаты патрэбна плаціць за сабаку з каркам да 40 сантыметраў, 0,2 — да 70 і 0,3 — больш за 70. Ёсць ільготнікі, на якіх зборы не распаўсюджваюцца, але яны таксама павінны выплачваць іх, калі маюць сабаку з каркам больш за 70 см. ■

ПАРТЫІ

## БНФ пікетуе расійскую амбасаду

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Беларускі Народны Фронт 2 і 3 верасня з 16 да 19 гадзінаў будзе праводзіць пікеты ля расійскай амбасады. Мэта палітычных акцыяў — пратэст інтэграванню Беларусі з Расіяй. На пікеце плануе прысутнічаць намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка. ■

## ПКБ на перамовах з уладай будзе прадстаўляць С.Калякін

**Рыгор БУЯН**

Партыя камуністаў Беларуская вызначылася са сваімі дэлегатамі на перамовы з выканаўчай уладай. Інтарэсы камуністаў будзе абараняць першы сакратар ПКБ Сяргей Калякін, «для падстрахоўкі» партыя выдзеліла яму сакратара ЦК ПКБ Алену Скрыган. У мінулыя выхадныя бюро ЦК парафіравала таксама асноўныя палажэнні Платформы, з якой апазіцыя збіраецца на перамовы. Паколькі амаль усе прапановы камуністаў былі ўлічаныя яшчэ падчас падрыхтоўкі праекта Платформы, ПКБ не плануе ўносіць дадатковыя карэктывы ў гэты дакумент. ■

РАБОЧЫ РУХ

## Рабочыя ММЗ супраць рабочых МТЗ?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Учора з раніцы правялі стыхійны страйк 500 рабочых Мінскага маторнага завода, пераважна з рамонтнага, механічнага і інструментальнага цэхаў. Маторабудаўнікі заявілі, што не пачнуць работу, пакуль адміністрацыя прадпрыемства не закрые запазычанасць па зарплаце за ліпень. Ультыматум падзейнічаў, і ўжо пасля абеда забастоўшчыкам выдалі на рукі па 6—7 мільёнаў. Цяпер на ММЗ чакаюць, што ў страйк уключацца рабочыя энергацэха, іншых падраздзяленняў і ўсе інжынерна-тэхнічныя работнікі, якім таксама яшчэ не заплацілі за ліпень. Спее незадаволенасць і на філіяле ММЗ у Стоўбцах, дзе працуе чвэрць рабочых прадпрыемства. Там запазычанасць складае ўжо некалькі месяцаў.

«Не разумею, як гэтыя людзі трымаюцца. Відаць, ратуюць агароды. А вось рабочыя тут, у Мінску, ужо не ў стане працягнуць без зарплаты нават месяц», — распавёў кіраўнік Свабоднага прафсаюза металістаў ММЗ Валерый Захарчанка. Ён ацэньвае становішча на заводзе як вельмі цяжкае. 70% сваіх рухавікоў ММЗ пастаўляе трактарнаму заводу, а той перажывае праблемы са збытам трактараў і таму не ў стане разлічыцца за рухавікі. «Сёння рабочыя ледзь не пайшлі маршам на МТЗ патрабаваць грошы», — гаворыць Валерый Захарчанка. Паводле ягоных заўвагаў, забастоўшчыкі ўсё часцей кажуць, што ў бедах ММЗ вінаватыя не адміністрацыя і не прадпрыемствы-партнёры. Цяпер ужо рабочыя задумваюцца над тым, ці правільна выбраны курс развіцця ўсёй эканомікі краіны. ■

## Забастоўкі далі вынік

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

На мінулым тыдні НАВІНЫ паведамлялі аб бестэрміновых забастоўках, распачатых рабочымі ААТ «Мінскі завод радыятарнага абсталявання» і Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў у сувязі з нявыплатай заробку. Страйкі далі плён. Заробак у хуткім часе выплацілі ўвесь да капейкі, і рабочыя зноў прыступілі да працы.

Па-іншаму падышлі ўлады на месцах да вырашэння пытання аб забастоўцы аршанскіх прадпрымальнікаў. На наступны дзень пасля сходу, на якім было аб'яўлена аб забастоўцы, старшыню Свабоднага прафсаюза прыватных прадпрымальнікаў Оршы Аляксандра Катлярова выклікалі ў міліцыю, дзе паведамілі, што яго чакае суд за арганізацыю несанкцыянаванага сходу. ■

ПОЛЬШЧА

## Предстанет ли В. Ярузельский перед судом в Варшаве?

**Отдел информации**

Как сообщает газета *Rzeczpospolita*, 27 августа гданьский районный суд принял решение возобновить дело против генерала Войцеха Ярузельского, Эдуарда Ланкуцкого и Йозефа Каминского в связи со смертью 44 человек в декабре 1970 г. во время протестов в Гданьске, Гдыне, Щетине и Эльблонге. В 1997 г. дело было приостановлено по причине слабого здоровья обвиняемых. Суд также решил подать прошение в Верховный Суд о переносе дел в Варшаву. В июне 1999 г. медицинское обследование подтвердило, что В.Ярузельский не может ездить на заседания суда в Гданьск по состоянию здоровья, но в состоянии предстать перед судом в Варшаве. ■

# Сведчанне «Былога»

## На судовым працэсе ў Вышэйшым судзе былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў распавёў пра тонкасці і механізмы здзелак, якія адбываюцца на самым версе ўлады

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

### Не лабіраваў

У якасці аднаго з самых цяжкіх абвінавачванняў супраць былога міністра следчыя выставілі тое, што ён дапамог камерцыйнай фірме «Руст-інвест» выйграць тэндэр на пастаўку фуражнага зерня, нягледзячы на тое, што гэтая фірма не мела дастаткова ні капіталу, ні вопыту ў справе паставак. Лабіраваў інтарэсы камерсантаў — зрабіла высноўу следства і на гэтым пабудавала палову абвінавачванняў у хабарніцтве.

Абвяржэнню гэтых абвінавачванняў Лявонаў прысвяціў значную частку свайго выступу ў судзе. Ён заявіў, што, яшчэ працуючы ў Нямеччыне кіраўніком гандлёвага прадстаўніцтва, атрымаў уяўленне, як магчыма зламаць манаполію на цэны, выключаныя пасрэднікамі. Для гэтага лепш за ўсё падыходзіць тэндэр, іншымі словамі, конкурс, у якім перамога за кампанія, якая гарантуе найбольш танныя пастаўкі, — і зараз перакананы экс-міністр. Вы на пастаўкі менавіта з «Рустам», міністэрства не аказвала, заявіў Лявонаў. Аднак ён прызнаў, што без выстаўлення гаспадаркам пэўных умоваў сапраўды не абышлося. Кіраўнікам сказалі: калі ласка, вы можаце знайсці пастаўшчыкоў з меншымі цэнамі, але і не заікайцеся пра больш высокія. Падрабязна Лявонаў патлумачыў, чаму асабіста яму, як міністру, давялося садзейнічаць, каб «Руст-інвест» свае абавязацельствы выканаў. Бо ў пачатку рэалізацыі кантрактаў з гаспадаркамі фірма сутрэлася з шалёным супраціўленнем, узгадаў экс-міністр. У прыватнасці, украінскія пастаўшчыкі збожжа, з якімі супрацоўнічаў «Руст», пачалі беспадстаўна прыпыняць адгрузку зерня. Чаму? Хто «дапамог»? Высветлілася, што «добразычліўцы» знаходзяцца ў Беларусі. Лявонаў сцвярджаў у судзе, што гэта кіраўніцтва Савета бяспекі і Камітэта кантролю пры прэзідэнце прыклалі руку да ўзнікшых цяжкасцяў з пастаўкамі. І усё роўна больш за 80 працэнтаў кантрактаў удалося выканаць — што не самы дрэнны ў падобных аперацыях паказчык.

У выніку ў абвінаваўчым заключэнні з'явілася выснова — міністр таму дапамог «Русту» выйграць тэндэр, што «Руст» дапамог міністру зэканоміць на аплаце рабочай сілы. Хоць ускосны, але хабар. Выступаючы перад судом, Лявонаў назваў гэтае меркаванне прыцягнутым за вушы. Ён назваў з дзесятак імёнаў людзей, з якімі сустракаўся на працы, — яны дапамагалі яму знайсці будынак і матэрыялы на катэдж. Былі сярод іх і супрацоўнікі «Руста», але што ў гэтым дзіўнага, калі падраздзяленні фірмы сапраўды займаліся і будаўніцтвам. Рабочых на будоўлі катэджа для міністра папрацавала нямала. Самых розных спецыяльнасцяў. За мулярамі прыходзілі тынкоўшчыкі, электрыкі, сталяры. Людзі мяняліся амаль кожны дзень, нездарма і катэдж быў пабудаваны за кароткі тэрмін — ледзь не за паўгода. Паколькі на будоўлі заўсёды знаходзіўся зяць Андрэй, ён і разлічваўся з рабочымі. «Увогуле такога не магло быць, каб мы не разлічыліся за працу людзей», — сцвярджаў экс-міністр на судзе. Паводле ягоных словаў, звычайна расплачваліся наяўнымі граму» за подпісам Лявонава, фігуравала маёмасць фабрыкі «Слодыч» і Мінскага завода шампанскіх вінаў. Гэта ж была б катастрофа, калі б за даўгі «Руста» «Нафтану» аддалі завод шампанскіх вінаў!

Не дзіва, што Лявонаў над гэтымі абвінавачваннямі шчыра пасмяяўся. Ён распавёў, што ў 1996 годзе, калі адбывалася гэтая гісторыя, як, дарэчы, і цяпер, ішла сапраўдная бітва за выжыванне жывёлы. Камбінаваных кармоў для дзяржаўных і калгасных свіней катастрафічна не хапала, як і валюты, каб гэтыя кармы набыць. Гаспадаркі выкручваліся як маглі. Міністэрства ім як магло дапамагала. Прыкладам, праведалі, што на «Нафтане» можна набыць дызельнае паліва, на якое могуць клюнуць замежныя пастаўшчыкі камбікармоў — нашыя «зайцы» ім былі непатрэбныя. Каб вырашыць праблему, выпрацавалі схему, якая задаволіла ўсіх. Нехта, каму давярае міністэрства і «Нафтан», атрымае на «Нафтане» таварны крэдыт — гэта азначае, спачатку возьме тавар, а ўжо пасля за яго заплаціць, — памяняе паліва на камбікорм, камбікорм прадасць гаспадаркам і разлічыцца з «Нафтанам». Гэтым «некім» стала фірма «Руст», якой міністэрства сапраўды давярала. Схема ўжо пачала працаваць, як раптам Лявонаву стала вядома, што дырэктар «Нафтана» загадаў прыпыніць адгрузку паліва. Чаго забаяўся дырэктар, па чыім указанні ён дзейнічаў, Лявонаву невядома, аднак прыйшлося дзеля справы падпісаць гэтую гарантыйную паперу, якая на самой справе ніякай гарантыяй не з'яўлялася. Гэта міністр добра разумеў, ён упэўнены, што разумелі гэта і на «Нафтане». У выніку папера была падпісаная, аднавіліся пастаўкі паліва, дайшоў да гаспадарак камбікорм. Тысячы галоў жывёлы былі ўратаваныя. Лявонаў увогуле не мог уявіць сабе, што «за такое!» яго будуць судзіць. І прэзідэнт, і прэм'ер ставілі перад ім задачу знайсці выйсце са складанага становішча, і ён знаходзіў. Падобных здзелак было шмат, хоць і яны не давалі вырашыць праблему на ўсе сто.



Васіль Лявонаў на судзе



Васіль Лявонаў і Васіль Старавойтаў — сябры па няшчасці

Аднак цяжкасць у тым, што традыцыйныя пастаўшчыкі, якія звычайна не адмаўляюцца ад удзелу ў конкурсу, могуць дамовіцца паміж сабой не зніжаць цэны ніжэй пэўнай мяжы, а гэта не ў інтарэсах спажыўца. Менавіта такая сістэма склалася на рынку паставак фуражу ў Беларусь да 1996 года. Міжнародны досвед паказвае, што зламаць падобную сістэму магчыма толькі з дапамогай навічка, не звязанага ні з кім дамоўленасцямі. Гэтым навічком і стаў «Руст-інвест», а бараніць інтарэсы спажыўцоў — сельскіх гаспадарак — узялося само міністэрства. Пры гэтым міністр асабіста пераканаўся, што «Руст» не дробная «кантора», калі наведаў шматпавярховы офіс фірмы на вуліцы Казінца ў Мінску. Аднак галоўнае было ў іншым. «Руст-інвест» абяцаў пастаўкі па коштах ніжэй прыкладна на 20 працэнтаў, таму ён і перамог у конкурсе. І ў прынцыпе сваё слова фірма стрымала. Ніякага ціску на калгасы і саўгасы, каб тыя заключалі дамо-

### Не браў хабару

Вядома, што Васіль Лявонаў з зяцем Андрэем Уласавым пабудавалі дом у вёсцы Прылукская Слабада, непадалёк ад Мінска. Следства ці тыя, хто ім кіраваў, канешне, не маглі прайсці міма гэтага «прывабнага» факту. Ну зразумела, у нас толькі злодзеі будуюць катэджы, а тыя, хто атрымоўвае па спецчарзе кватэры ў дамах з чырвонай цэглы з ляпнінай на фасадах, — усе выключна чэсныя грамадзяне. Следчыя пачалі «капаць», аднак асабліва не было за што прычапіцца. Будаўнічыя матэрыялы на катэдж каштуюць хоць і немалых грошай, але Лявонаў лёгка даказаў, што гэта грошы «чыстыя». Ён зарабіў іх, працуючы ў Нямеччыне, і ўсю ўвезеную валюту задэклараваў, заплаціўшы неабходныя падаткі. Падышлі з іншага боку. Нехта ж дом будаваў? Хто? А як з імі разлічваліся? А ці не было сярод шабашнікаў рабочых з «Руста»?

Такія сапраўды знайшліся, і шыма, але калі на будоўлі выкарыстоўваліся машыны або механізмы, аплата ішла пералічэннем на арганізацыю.

### Не махляваў

Не менш цяжкім за іншыя абвінавачванні ў бок Лявонава з'яўляецца сцвярджанне, быццам ён выдаў незаконную гарантыю, з дапамогай якой ужо вядомай нам фірме «Руст-інвест» удалося набыць у НПА «Нафтан» дызельнага паліва на мільён долараў, прадаць паліва і «накруціць» грошы. Следства падлічыла, што ў выніку здзелкі камерсанты пабагацелі на дзвесце тысяч долараў, што, відаць, вельмі дрэнна, паколькі гаворка ідзе пра фірму, якая мела стасункі з Лявонавым. Следства, праўда, не знайшло доказаў на карысць таго, што фірмачы падзяліліся здабычай з міністрам, і усё ж міністр вінаваты. Ён, па логіцы следства, незаконна распасцяўся дзяржаўнай уласнасцю — бо ў гарантыйнай паперы, выдадзенай «Нафта-

### Не хаваў зброю

Зусім ужо бессаромным з боку цяперашняга кіраўніцтва краіны выглядае абвінавачванне былога міністра, а калісьці першага сакратара абкама КПБ, у тым, што ён хаваў зброю. Прычым не толькі менавіта зброю, а яшчэ і боепрыпасы. Такімі абвешчаныя патроны для стрэльбы «вінчэцер» ды патроны да аўтамата Калашнікава. У 80-ыя гады, калі ўзышла абкамаўская зорка Лявонава і ўзыходзілі дробныя зорачкі маладых кіраўнікоў гаспадарак вобласці, толькі апошні дысідэнт у Магілёве не ведаў, што абкамаўскае начальства на паляваннях забаўляецца стралянінай па банках з «вінчэцера». Сапраўднага, як у гэдээраўскіх фільмах пра індзейцаў з Гойка Міцічам у галоўнай ролі. Папуляць з «вінчэцера» ў Магілёў спецыяльна прыязджалі партыйныя босы з Мінска. «Вінчэсцер» параўноўвалі з каронай, што задавалася разам з магілёўскім партыйным тронам. Прайшоў час, «восставший народ» зламаў троны, у тым ліку і магілёўскі. Разам з ім недзе ў абкамаўскім гаражы згубіўся і «вінчэсцер» 1906 года выпуску. А тузін патронаў да яго застаўся ў былога першага сакратара. Магчыма, як напамін пра часы «індзейства». Сам Лявонаў сказаў на судзе, што яшчэ сакратаром натыкнуўся ў гаражы на стрэльбу і патроны, вырашыў, што лепш ім быць паасобку, і знёс патроны дадому. Ці мог ён уявіць, што калі-небудзь хлопчыкі-оперы прыйдуць перагратасаць ягоны дом і знойдуць гэтыя напалову іржавыя патроны ды прышыюць іх да справы пра крэслы і каўбасу? Што ж тычыцца патронаў да Калашнікава, то іх з'яўленне Лявонаў тлумачыць наступным чынам — падкінулі самі следчыя. «У мяне быў прамысловы карабін, з якім я хадзіў на паляванне, але баявыя патроны ад аўтамата яму непатрэбныя», — заявіў на судзе экс-міністр.

### Не заказваў дарагой мэблі

Гэта бадай што самае слабое звяно ў абароне экс-міністра. Ён сцвярджае, што не замаўляў у Васіля Старавойтава такой дарагой мэблі, якую яму прывезлі з «Рассвета», і заплаціў Старавойтаву столькі, колькі ён сказаў. Экс-міністр прызнае, што мэбля каштавала даражэй, але ён гэта высветліў запозна. Паводле Лявонава, пачалося ўсё з таго, што, пабываўшы аднойчы ў рассветаўскім мэблевым цэху, ён замовіў для новага дома звычайны сасновы гарнітур і тузін крэслаў. Потым папрасіў дадаць да спісу журнальны столік, два ложкі, некалькі крэслаў. Заказ выконваўся доўга, і нарэшце мэблю прывезлі. Недзе ў той час, паводле Лявонава, ён са Старавойтавым і разлічыўся. Толькі пазней, расстаўляючы мэблю ў катэджы, міністр заўважыў, што яму, як той Элачцы-людаедцы, «падсунулі значна лепшае футра» — замест сасновай зрабілі мэблю з дуба і не на рассветаўскіх станках, а на бабруйскім «Фандоку». «Гэта павялічвае накладныя выдаткі разоў у пяць», — прызнае экс-міністр і выказвае шкадаванне, што своечасова не вырашыў праблему. Але ён настойвае, што перадаваў кіраўніку «Рассвета» за мэблю грошы. Чаму Старавойтаў на следстве казаў супрацьлеглае, Лявонаў не ведае. Былы міністр звярнуў увагу суда на тое, што падчас следства Старавойтаў мяняў свае паказанні.

### Не аб'ядаўся мясам

Усе, хто слухаў разам з Лявонавым абвінаваўчае заключэнне, не маглі стрымаць усмешак, калі агучваўся «каўбасна-мясны» эпізод. Згодна з ім экс-міністр быццам бы скраў і «выкарыстаў па прызначэнні» многія кілаграмы мяса, каўбасаў, памідораў і агуркоў — прадукцыю палеткаў і цяпліцаў славутай гаспадаркі «Рассвет» пад кіраўніцтвам Васіля Старавойтава. Руплівыя следчыя зафіксавалі ажно 85 выпадкаў раскрадання Лявонавым рассветаўскіх далікатэсаў. У выніку атрымалася, што з лютага 1996 па верасень 1997 года міністр забраў сабе ледзь не тону мяса, тры цэнтнеры каўбасаў, цэнтнер рыбы і паўтоны памідораў. Просты разлік паказвае, што толькі мяса ў гэты перыяд экс-міністр павінен быў з'ядаць амаль два кіло штодня. Не дзіва, што Лявонаў назваў выведзеныя следчымі лічбы фантастычнымі і пакінуў іх на сумленні аўтараў абвінаваўчага заключэння. І ўсё ж былы кіраўнік міністэрства, якое адказвала за харчаванне насельніцтва, не адмаўляўся, што ў свой час некаторыя прадуктовыя падарункі асабіста Старавойтава ён атрымоўваў. Але, паводле экс-міністра, гэтаму хутка быў пакладзены канец. Лявонаў неяк прыехаў да Старавойтава ў госці з дарагім каньяком і дамовіўся, каб больш той ніякіх «паднашэнняў» у ягоны дом не прыносіў. Яшчэ адным аргументам супраць «харчовых» абвінавачванняў стала заява Лявонава пра тое, што ягоная дачка мае цяпліцу, вырошчвае птушку і жывёлу, і гэтых прадуктаў з асабістага падвор'я ўсім Лявонавым хапае.

...А ці хопіць суду гэтых доказаў, каб прызнаць Васіля Лявонава невінаватым, гадаць пакуль рана. На працэсе пачаліся допыты сведкаў, якіх у справе фігуруе больш за сто. Ад іх паказанняў таксама будзе залежаць вартасць таго, што сказаў суддзям экс-міністр. ■

КНІГАРНЯ

# Падручнік для школы нянавісці

Мірaслаў ЧАНТАРЫЦКІ

**Жабский А.В. Девять правд Беларуси (Газетный сериал). — Волгодонск: «Волгодонская неделя» (при участии издательства «Гвоздь»), 1999. — 136 с.**




Гэтая кніжка з'явілася вынікам травеньскай паездкі аўтара ў якасці спецыяльнага карэспандэнта «Волгодонской недели» ў Беларусь.

Паездку арганізаваў расійскі Фонд абароны галоснасці, прымеркаваўшы яе да выбараў новага прэзідэнта Беларусі, якія праходзілі ў нашай краіне з 6 па 16 траўня бягучага года.

136 старонак беларускіх уражанняў расіянін Жабскі прысьвяціў бацькам сваёй жонкі, Марыі і Пятру Шыбутам з Баранавічаў, якіх зяць назваў «типичными гражданами Беларуси». Аўтар выказаў шчырую падзяку спадару Анатолю Гуляеву з Беларускай асацыяцыі журналістаў «за дружеский прием в Минске и организацию интересных и полезных встреч».

Пра змест і характар кніжачкі Жабскага «Девять правд Беларуси», пра духоўнае нутро валгадонскага правінцыяла сведчаць наступныя дзевяць цытатаў.

Як і многія іншыя расіяне, Жабскі любіць нашую краіну спецыфічнай любоўю. Беларусь для яго — гэта «край, с которым едва не астральными узами связан почти четверть века», гэта «Белоруссия», у якую ён наяжджаў з камандзіровачным пасведчаннем ад «Комсомольской правды», дзе знайшоў і адкуль потым вывез жонку, «верную спутницу жизни и музу».

На фоне заяваў пра «астральные узы» асабліва пікантнай выглядае наступная цытата: «...я приехал на центральный минский проспект Якуба Коласа, в здание, где 81 год назад предшественники нынешних националистов провозгласили Белорусскую Народную Республику, а теперь, через стенку с фирменным магазином минского водочного... завода «Кристалл» располагается штаб-квартира Белорусского народного фронта...»

Трэцяя цытата: «В свое время БНФ, в активистах которого ходили такие «глыбы», как Василь Быков (и теперь болеющий душой за «национальное возрождение» соплеменников, но только в Германии)...» Тут неабходна ўдакладніць, што беларускі пісьменнік Васіль Быкаў ужо каля года жыве ў Фінляндыі, піша там беларускія творы і друкуе іх у газеце «Наша Ніва».

Цытата № 4: «...БНФ за десятилетие превратился в открыто враждебную россиянам группировку по сути национал-социалистского толка...»

Некалькі старонак у кнізе Жабскага адведзена вершу «Убей президента» і гісторыі, з ім звязанай. Аўтарскі каментар насычаны такімі эпітэтамі, як «щенячий восторг» (пра Б.Хамайду), «гаденький героизм» і «белорусскоговорящий виршеплёт». Цытата № 5 надзвычай яскрава сведчыць, што аўтар «Девяти правд Беларуси» не абцяжарвае сябе карэктнасцю як у палітычным, так і ў маральна-этэтычным плане.

«Уверен, — заяўляе Жабскі, — что читатель уже исходит слюной от нетерпения...» Цытата шостая: «Тем не менее, поднятая по поводу преследования властями Белоруссии свободы слова и печати шумиха продолжает нарастать. Дань ей отдал и президент Фонда защиты гласности Алексей Симонов...»

Прэзідэнт таго самага, дарэчы, Фонду, пры дапамозе якога грамадзянін РФ Жабскі меў магчымасць правесці ў Беларусі некалькі вясновых дзён.

Цытата сёмая, безапеляцыйная: «Свободы печати не может быть в принципе...»

Цытата восьмая, садамазахісцкая: «...невольно хочется зашить не только рот, что однажды на митинге в Минске «отмочил» Славамир Адамович, но также и веки и уши».

І нарэшце, цытата дзевятая, каронная: «...страстно, до боли любимая мной Белоруссия может утешиться уже тем, чем мы с вами, российские жители, обделены. Во главе ее стоит лидер, который живет интересами родины».

Завяршаючы агляд гэтай своеасаблівай кніжкі для школы нянавісці, заўважу: па-першае, Фонду абароны галоснасці і яго партнёру БАЖу варта больш жорстка «фільтраваць» гасцявую публіку з Усходу; па-другое, суцяшае той факт, што кніжыца Жабскага выйшла тыражом усяго 200 штук. Так бы мовіць, для сяброў і знаёмых. ■



МЕРКАВАННЕ

# Прымус любові не дае

Масей СЯДНЁЎ
Глен Кое, ЗША



З надыходам перабудовы і з абвешчаньнем беларускай самастойнай дзяржавы наступіла значнае ажыўленьне на фронце нацыянальнай палітыкі, асабліва ў пытаньні беларускай дзяржаўнасьці. Вядучую ролю тут заняў Беларускі Народны Фронт на чале з Зянонам Пазьняком. Фронт гэты аднак не набраў сілы, каб быць Фронтам дзеля вузкасьці свае палітыкі, апрыёры разьлічанай на канфрантацыю, а не на супрацоўніцтва з парламентам. Прыгадаем выступленьні Фронту супраць Шушкевіча, тадышняга старшыні Вярхоўнага Савета. У БНФ ня было па сутнасьці канструктыўнай праграмы, творчага ў ёй пачатку. Праграма Фронту была голай, калі не лічыць дэкларацыйнасьці пра незалежнасьць і самастойнасьць Беларусі. Але мы аддадзім яму тут належнае — ён сьмела і прынцыпова ўзьняў пытаньне беларускай дзяржавы. Што-ж тычыцца пытаньня міждзяржаўных дачыненьняў, дык БНФ гэтага пытаньня па сутнасьці не ставіў, праўда, адразу-ж заняў войструю антырускую пазыцыю ў дачыненьні да Расеі. Можна нават сказаць, што антырускасьць — гэта дамінанта нацыянальнай палітыкі БНФ. Зрэшты, гэта дамінанта і палітыкі іншых апазыцыйных партыяў і аб'яднаньняў у сучаснай Беларусі. Назіраецца аднабаковая зададзенасьць гэтых партыяў і аб'яднаньняў. Гэтая зададзенасьць і адрэзала гэтыя партыі, і перш за ўсё БНФ, ад шырэйшай падтрымкі іх з боку беларускага грамадства. Антыруская палітыка БНФ аніяк не ўлічвала рэальнай сытуацыі ў Беларусі. Бо-ж сёньня, як-бы гэтага мы ні хацелі, нельга выклікаць моцных антырускіх настрояў у пераважнай бальшыні беларускага насельніцтва дзеля глыбокай асыміляцыі гэтага насельніцтва, дзеля моўных, этнічных і іншых фактараў. Ня дзіва, што антыруская палітыка БНФ не дала жаданага плёну, працавала і працуе на парожнім ходу. Наогул-жа на «анты» — ці то на антырускасьці, ці то антыпольскасьці — нельга будаваць беларускай дзяржаўнасьці. У нашых партыяў няма сур'ёзнай праграмы міждзяржаўных дачыненьняў, у прыватнасьці зусім не распрацавана, так-бы мовіць, «рускае пытаньне». З гэтым усходнім суседам вядзецца нешта накшталт халоднай вайны. Гэты сусед разглядаецца як галоўная перашкода на шляху пабудовы беларускай дзяржаўнасьці, і што пакуль ён існуе, ён будзе пагрозай для беларускай дзяржавы. Вось-жа ў сваёй нацыянальнай палітыцы мы ня можам ігнараваць «рускага пытаньня». Яго аніяк нельга абысьці, яно непасрэдна ўпіраецца ў сьвятое сьвятых нашай дзяржаўнасьці. Ад яго па сутнасьці залежыць, быць ці не быць нашай дзяржаве. Дэ-юрэ рэспубліка Беларусь — самастойная дзяржава, але да сапраўднай, фактычнай самастойнасьці Беларусі яшчэ далёка. Залежнасьць Беларусі ад Расеі вялікая. Разводу з ёю яшчэ не адбылося. Апазыцыйныя партыі мусяць не байкатаваць яе, а пачаць зь ёю сур'ёзныя, дзелавыя перамовы. Тут гаворка йдзе ня гэтулькі пра гаспадарчыя дачыненьні, хоць гэта таксама важная галіна, колькі пра гарантыю самастойнасьці і цэласнасьці рэспублікі Беларусь.

Ня лёгкім пытаньнем зьяўляецца і пытаньне культурных, навуковых і іншых сувязяў з Расеяй: такія сувязі зноў-жа набываюць палітычнае значэньне. Тут перш за ўсё насоўваецца пытаньне рускай мовы, менавіта рускай мовы ва ўмовах цяперашняй Беларусі. Мы не гаворым тут пакуль пра беларускую мову. Скажам толькі, што ніякая іншая, а толькі беларуская мова мусіць быць дзяржаўнай мовай у рэспубліцы Беларусь. Дзяржаўнае, як цяпер, двухмоўе недапушчальнае і шкоднае. На гэты конт ня можа быць іншага пагляду. Але мы пакуль ня можам расквітацца і з рускай мовай. Мы ня можам аб'явіць яе замежнай мовай накшталт ангельскай, нямецкай ці якой іншай, як гэта часам робяць некаторыя апазыцыйныя палітыкі. Для беларуса руская мова не замежная не толькі таму, што яна лінгвістычна блізкая нам. На гэтай мове асвоеныя сусьветныя дасягненьні чалавечай дзейнасьці ў галіне навукі, культуры, мастацтва, філязофіі, і гэта ўсё даступна сёньня беларускаму навучэнцу. Цяперашняе пакаленьне беларусаў фактычна атрымала адукацыю на рускай мове. Спатрэбіцца шмат часу і высілкаў, каб у сувэрэннай Беларусі быў завершаны на беларускай мове працэс асваеньня сусьветных здабыткаў у розных галінах ведаў. Гэта не апалагетыка рускай мовы як гэткай, а практычная патрэба. Беларуская-ж мова, як мова дзяржаўная, мусіць стаць сапраўды дзяржаўнай: ва ўсіх галінах дзяржаўнай дзейнасьці беларуская мова мусіць быць абавязковай, пануючай мовай. У навучальных установах, у школах беларуская мова мусіць быць ня госьцяй, а навучальнай мовай. Беларуская нацыя мусіць вярнуцца да мовы сваіх продкаў і такім парадкам набыць сваё нацыянальнае аблічча. Мы мусім гаварыць па-беларуску, мусім вярнуцца, як тыя ірландцы, да свайго караню.

Антыруская палітыка апазыцыі завайстрыла да скрайнасьці моўнае пытаньне ў Беларусі і, як мы схільныя думаць, справакавала мемарандум адносна рускай мовы. Ня толькі рускія, што жывуць у нашай дзяржаве, а й самі беларусы, прынамсі адукаваная іх часьць, угледзелі пагрозу для рускай мовы, пагрозу раптоўнага і татальнага выдаленьня яе з ужытку. Была тут і неасьцярожнасьць творцаў Закону аб мовах — яны не ўлічылі складанасьці моўнай сытуацыі ў Беларусі. Мемарандум прычыніў сьмяротную шкоду беларускай мове — руская мова набыла статус, роўны беларускай мове, фактычна падмяніла беларускую мову.

Але на гэтым не канец. Час уладжвае ўсё. Толькі на час трэба працаваць. Аддана. Тады й наступіць час сапраўднага адраджэньня беларускай нацыі. У падмурку беларускай дзяржаўнасьці будзе й цаглінка, закладзеная працай людзей, якіх мы сёньня тут крытыкуем. ■

ДАВЕДКА НАВІНАЎ

**Масей СЯДНЁЎ** — знаны паэт, празаік, адзін з самых буйных літаратараў беларускай эміграцыі ў ЗША. Нарадзіўся ў 1913 г. на Магілёўшчыне. Скончыў мінскі педагагічны інстытут, у 1936 годзе рэпрэсаваны, адбыў пяць гадоў у лагеры на Калыме. У 1941—1943 гадах жыў у вёсцы, працаваў на гаспадарцы. З 1943 — жыве за мяжой. Аўтар васьмі паэтычных зборнікаў і некалькіх раманаў.

ЛІТВА

# Оглашен приговор организаторам путча

Егор ИВАНОВ

Вильнюсский Окружной Суд закончил рассмотрение дела по событиям 1991 года, когда во время штурма Вильнюсской телебашни и Литовского радио и телевидения погибли 13 человек и около 300 получили ранения.

Бывший первый секретарь ЦК КПЛ (КПСС) Миколас Буракявичюс признан виновным в подстрекательстве к преднамеренному убийству с отягчающими обстоятельствами, в создании антигосударственных организаций, в открытых призывах к насильственному нарушению суверенитета Литвы и в других преступлениях. Он приговорен к 12 годам лишения свободы в колонии строгого режима.

Бывший заведующий идеологическим отделом этой партии Юозас Ермолавичюс признан виновным в создании антигосударственных организаций и в открытых призывах к насильственному нарушению суверенитета Литовской Республики. Суд приговорил его к 8 годам лишения свободы в колонии строгого режима.

Бывший секретарь ЦК КПЛ (КПСС) Юозас Куолялис за такие же преступления приговорен к 6 годам лишения свободы в колонии строгого режима. Бывший директор издательства ЦК КПСС Ляонас Бартошявичюс признан виновным в создании антигосударственных организаций и приговорен к 3 годам лишения свободы. Бывший старший инспектор службы общественного порядка МВД Ярослав Прокопович за хищение оружия и грабеж осужден на 6 лет лишения свободы, но по закону об амнистии срок уменьшен до 4 лет. Бывший редактор радио «Советская Литва» Станислав Мицкевич, который не присутствовал на заседании по состоянию здоровья, приговорен к 4 годам лишения свободы за создание антигосударственных организаций.

15 января 1994 года Миколас Буракявичус и Юозас Ермолавичус были депортированы из Беларуси в Литву и с тех пор содержались под следствием в связи с причастностью к событиям 13 января 1991 года. А 26 января 1994 года Станислав Шушкевич был снят с поста председателя ВС за «непринятие мер по борьбе с коррупцией, отсутствие контроля за работой правоохранительных органов (тот самый арест в Минске М.Буракявичюса и Ю.Ермолавичюса) и проявление личной «нескромности»: ремонт за государственный счет своих квартир и дачи» — по материалам парламентской комиссии, которую возглавлял Александр Лукашенко. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 592 Нумар падпісаны ў друк 31/08/99 (15:00) Наклад — 17.060